# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

9 кастрычніка 2015 года №41 **(1067)**





**Шварцэнегер пахваліў і паціснуў руку 13-гадоваму цяжкаатлету з Ашмянаў**

старонка 22

**Робім рамонт у санвузле і нацягваем столь**

старонкі 20-21

**ВЫБАРЫ**

старонка 2





# Яна стала маці, шматдзетнай, амаль у 50 год

**Жыццёвая гісторыя Юліі Кустэнкі з Лебедзева**

старонка 2

Фота Настассі РОЎДЫ.

АФІЦЫЙНА

## Прагаласавацъ на выбарах прэзідэнта зможа амаль сем мільёнаў выбаршчыкаў

Паводле звестак Цэнтрвыбаркама, прагаласаваць на сёлетніх выбарах зможа 6 мільёнаў 995 тысяч 181 выбаршчык, у тым ліку 5 тысяч 742 – за межамі Беларусі.

Выбарчым правам у Беларусі валодаюць грамадзяне, якія дасягнулі 18 год.

Незалежныя назіральнікі падкрэсліваюць, што ў адпаведнасці з выбарчым заканадаўствам удзел у выбарах мае выключна добраахвотны характар.

**Ніхто не мае права прымушаць грамадзян удзельнічаць або не ўдзельнічаць у выбарах, а прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні з'яўляецца грубым парушэннем заканадаўства і цягне адказнасць.**

Шэраг незалежных ініцыятыў па назіранні за выбарамі ў Беларусі стварылі спецыяльны мабільны дадатак "Вочы". Спампаваўшы яго, выбаршчык зможа перасылаць незалежным назіральнікам інфармацыю аб парушэннях на выбарах. Дасланая карыстальнікамі інфармацыя пасля мадэрацыі адлюстроўваецца на анлайн-карце electby.org.

На пасаду прэзідэнта Беларусі прэтэндуюць чатыры кандыдаты: старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Сяргей Гайдукевіч**, актывістка кампаніі "Гавары праўду" **Тацццяна Караткевіч**, кіраўнік дзяржавы **Аляксандр Лукашэнка** і старшыня Беларускай патрыятычнай партыі, вярхоўны атаман РГА "Беларускае казацтва" **Мікалай Улаховіч**.

Паводле звестак на 5 кастрычніка Цэнтрвыбаркам Беларусі акрэдытаваў 910 міжнародных назіральнікаў за прэзідэнцкімі выбарамі, якія адбудуцца 11 кастрычніка.

Старшыня Цэнтрвыбаркама РФ **Уладзімір Чураў** асабіста будзе назіраць за ходам прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

"Мой маршрут будзе ўключаць пераважна заходнія раёны Беларусі. Гэта Ашмяны, Смаргонь, раён возера Нарач, Маладзечна і Мінск", – растлумачыў ён.

**Паводле БелаПАН і sputnik.by.**

14 КАСТРЫЧНІКА – ДЗЕНЬ МАЦІ

# Яна стала маці, шматдзетнай, амаль у 50 год

МАЛАДЗЕЧНА

**Юлія Кустэнка з Лебедзева, напэўна, адзіная ў Беларусі стала мамай у 48 год адразу траіх дзяцей, і ўсіх прыёмных. У яе гісторыі мацярынства былі і слёзы, і пераходны ўзрост дзяцей, і нават час, калі не было на што купіць кавалак хлеба.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

Юлія Кустэнка ля ганка свайго дома ў Лебедзеве разам з сабакам Тарзанам.

Цяпер кожны з яе дзяцей упэўнена ідзе сваёй жыццёвай дарогай. Як яна змагла пераадолець усё падножкі лёсу, і сама не ведае. Бадай што раўнялася на сваю маці, якая ў пасляваенны час падняла адна шасцярых дзяцей і нават часам знаходзіла хвілінку, каб прылашчыць меншую дачку Юльку.

У свае 68 год Юлія не мае часу прыгадваць беды. Толькі прыехала з горада, дзе глядзела, як сын, якога ў свой час кепская кампанія давяла да багны, спраўляў сваю першую імшу ў маладзечанскім касцёле:

– Мяне там проста распірала ад гонару, гэта ж мой **Сашка**! – дзеліцца гераіня. – У яго ж такі голас прыгожы, што людзі побач, хто першы раз чуе, аж уздрыгваюць! Я такая шчаслівая, што ён нарэшце вызначыўся, што вера вырвала з багны і адкрыла шлях у добрае жыццё. Далі яму пакой, яды, кажа, хапае, але я ж усё роўна завезла гасцінцаў. Паўгода будзе прыслугоўваць, а пасля адпраўяць у Італію.

У жанчыны наварочваюцца слёзы, калі прыгадвае, як у юнацтве яе Сашка і крычаў на яе, і папіваў, і нават спрабаваў "нюхаць". Але тут жа іх змахвае: няма калі прыгадваць былое няшчасце. Закончылася ўсё добра, ды і карову ўжо вядуць, трэба падаіць.

### Пэўна, выгадна дзяцей усынаўляць

Каб мы не сумавалі, пакуль гаспадыня спраўляецца з хатнімі клопатамі, дае пачытаць артыкулы пра сябе. Усе іх жанчына захоўвае каля стала, на якім раскладзеныя рэлігійныя і духоўныя кнігі. Некаторыя з іх ёй даў пачытаць Сашка. Жанчына прызнаецца, што кожная з іх мае столькі мудрасці, столькі адкрыццяў, што ад чытання нібыта душа ўздымаецца.

У 1996 годзе пра сям'ю Кустэнкаў, якая толькі нядаўна знайшла сваіх траіх дзетак, пісала "Рэгіянальная газета". Праз некалькі год пра гаспадарчыя і бацькоўскія клопаты друкавала "Маладзечанская газета". У 2011 Юлія напісала ў "Звязду" пра трагедыю для любога вясковага чалавека: у вялікую спёку прасіла сям'я ў старшыні калгаса камбайн. І грошы аплацілі, але на тую бяду змалацілі трэць – і машына зламалася. Больш камбайн не далі, а жанчына ад такой крыўды нібы воўк выла на полі. А сёлета жанчына напісала ў рэлігійны часопіс "Авэ Марыя". Вельмі яна ўдзячная вышэйшым сілам, што дзеці ўладкаваныя, а ў самой хапае сіл і пад 70 год круціцца з агародам, каровай, кабаном і курамі. У мужа **Мікалая** моцна баляць ногі, таму ўся гаспадарка на жанчыне, ды яшчэ і мужу трэба дапамагаць.

Такая ўвага відаць усім. Некаторыя аднавяскоўцы часам нават кідалі: "Пэўна, надта выгадна цяпер дзяцей усынаўляць, каб жылося добра".

**Але хіба ты будзеш тлумачыць, што сям'я перажывала часы, калі не было на што хлеба купіць.**

Юлія тады кінула работу, каб працаваць на гаспадарцы і глядзець за дзецьмі. А муж Мікалай памяняў працу, і заробак моцна ўпаў. Для сям'і, якая згубіла на кніжцы грошай на пяць машын і да 50 год дзякуючы працавітасці моцна стаяла на зямлі, гэта стала ўдарам. Выратавала свякроў, якая часам давала скібу сала. Але што тая скіба на пяць чалавек – за адзін прысест і з'елі.

У той час ніхто не падказаў Юліі, што на ўсыноўленых дзяцей дзяржава не плаціць грошай, а калі аформіць апекунамі, то дапамога будзе. Розніца для Кустэнкаў толькі ў паперах, затое грошы ў вялікай сям'і трэба на многае. Шмат зваротаў і скаргаў пісалі Юлія і Мікалай чыноўнікам, і ўрэшце праз нейкі час пачалі плаціць дапамогу і на ўсыноўленых дзяцей, магчыма, дзякуючы сям'і Кустэнкаў.

### Усе дзеткі ўладкаваныя

Юлія шкадуе, што цяпер столькі работы, а ў яе не дзесяць рук:

– І кілбаску, і сальца, і масліца, і малако, і яйкі даю дзецям. Сашка браць не хоча, але ж мне так хочацца ім нешта перадаць. Усе дзеткі ўладкаваныя. Дзяўчына мая **Анька** прыгожанькая, як фотамадэль. У яе мужык кватэру пабудаваў у Маладзечне, унучка гадуецца. Яна бухгалтарам працуе. У нашага меншага, **Колі**, таксама ў горадзе кватэра, жыве з дзяўчынай з Лебедзева. Кіроўцам працуе. А Сашы мы пакінулі дом, які ад бацькоў Колевых застаўся. Сашка там рамонт зрабіў, як цацачны, але Сашка кажа, не трэба яму, ён жа манах.

Ганне хутка споўніцца 28, Аляксандру – 27, а Колю – 25.

А перажылі Кустэнкі нямала, пакуль ставілі дзетак на ногі. Быў адзін год, як іх напаткала адно няшчасце за другім. Анютка звалілася з кабылы і доўга лячылася, Саша пачаў кепска чуць, а Коля зваліўся на разбітую бутэльку і таксама пакалечыў руку. Неяк вылечылі ўсіх, але да дактароў пахадзілі не адзін месяц.

Ганарыцца Юля, што яе дзеці вельмі працавітыя. Усё мястэчка дзівілася, што сучасныя дзеці ды так руплівa ўмеюць працаваць на зямлі. Ва ўсёй вясковай рабоце яны памагалі бацькам. А ўвогуле Кустэнкі і зусім не збіраліся ўсынаўляць траіх – усё ж абаім было пад 50, а дзяцей жа трэба і адзець, і навучыць, і карміць, і з жыллём памагчы. Сям'я даўно задумвалася, што раз не атрымліваецца самім нарадзіць, то варта ўзяць прыёмнага. Рашыцца дапамог трагічны выпадак. Пайшоў з жыцця бацька Мікалая. Мужчыну ад такой страты магло выратаваць толькі новае жыццё.

### У нас ёсць тата і мама

У 1996 годзе Юлія папрасіла ў жодзінскім інтэрнаце якога чорненькага хлопчыка, каб на мужа быў падобны. Сказалі, што такі ёсць, але з сястрычкай. "Бярыце абаіх, пасля дзякуй скажаце", – паралі ёй. Перад тым, як усынавіць дзетак, узяла на выхадныя. Пасля вярнула ў інтэрнат, каб закончыць работу з дакументамі. Дык Сашка з Анькай ледзь не збеглі, крыкам крычалі, што ў іх ёсць мама і тата і ім трэба памагаць па гаспадарцы. Не збеглі толькі таму, што не ведалі, куды.

Урэшце, дакументы аформілі, сям'я паехала ў Лебедзева. Але аказалася, што ў іх дзетак ёсць яшчэ маленькі брацік Коля. Забралі і яго.

Біялагічную маці праз некалькі год адшукалі. Жанчына разам з мужам піла, мужык збіваў. Неяк званіла і зноў прапала. Юлія не дакарае:

**– Каб мы сустрэліся, я ж бы ёй рукі цалавала, што нарадзіла мне такіх харошых дзетак!**

Перад тым, як стаць сапраўднай сям'ёй, Кустэнкі 25 год жылі ўдваіх. Да жаніцьбы Мікалай дабіваўся Юліі восем год:

– Ой, такі бандзюган быў на ўсю акругу, ніводнай бойкі не прапускаў, такі асілак на "Яве". А які ж настырны, сказаў, як за мяне не пойдзеш, то і ні за кога. Усіх маіх кавалераў паразганяў, дык што рабіць мне было (смяецца). Каб не было пачуццяў да яго ў душы, то і не пайшла б, вядома. У першы раз пазнаёміліся мы так. Я ў мароз несла на каромысле два вядры вады. Мы тады ў Палянах жылі, пад Лебедзевам. А ён працаваў кіроўцам, убачыў мяне, пашкадаваў і падвёз. От тады наганяй атрымаў! Але так і засталіся мы разам на ўсё жыццё. І атрымалася сапраўдная сям'я, дзякуй богу.

### "Гэта ўнікальная гісторыя"

Дырэктар Нацыянальнага цэнтра ўсынаўлення **Наталля Паспелава** гісторыю сям'і Кустэнкаў называе ўнікальнай:

– Узяць адразу траіх дзяцей – гэта адзінкавы выпадак. Такое было магчыма толькі ў 90-х, калі можна было ўсё, было б жаданне. Цяпер мы імкнёмся не даваць нават двое адначасова. Прапануем прыняць адно дзіця, а праз годдва – другое. Бываюць бацькі, якія не да канца ўсведамляюць усю адказнасць і разлічваюць найперш на дапамогу дзяржавы, але ж у першую чаргу прыёмным бацькам варта разлічваць на сябе. Часта ў дзяцей, якіх усынаўляюць, застаецца балючая памяць пра мінулае, якую проста немагчыма вылечыць. Упэўненая, што ў вашай гераіні было шмат няпростых сітуацый. Нешта давала ёй велізарную сілу, каб усё пераадолець і захаваць сапраўдную сям'ю.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Да будаўніцтва ліўневай каналізацыі.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Будуюць ліўнёўку на вуліцы 1 Мая.

ДАРОГІ

# У Вілейцы з'явіцца новая ліўнёўка

## Скончыць работы мяркуюць у лістападзе

ВІЛЕЙКА

**Маштабныя работы вядуцца цяпер на вуліцы 1 Мая ў Вілейцы. Гэта вуліца даўно ўжо выклікала нараканні віляйчан.**

– Там не было ліўневай каналізацыі, – кажа дырэктар Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Ігар Кіцікаў.** – Таму і стаялі лужыны, перашкаджалі ездзіць, машыны аблівалі пешаходаў. Вада разбурала пакрыццё і машыны. Лічу, людзі гатовыя цярпець часовыя нязручнасці, каб гэтыя праблемы вырашыліся.

– Праект прадугледжвае будаўніцтва сетак ліўневай каналізацыі і поўнае добраўпарадкаванне вуліцы, – расказвае намеснік дырэктара Вілейскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Ніна Сялюн**. – Згодна з ім, у асобных месцах пашыраць праезную частку, паставяць бардзюры з усіх бакоў, бо водаадвод будзе забяспечаны праз ліўневую каналізацыю. Дзе трэба, дабудуюць тратуары. На ўсім участку ўкладуць новае асфальтабетоннае пакрыццё.

**– Што гэта дасць віляйчанам?**

– Яны атрымаюць абноўленую вуліцу – роўную, прамую, шырокую. А калі абноўленая вуліца, то адпаведна і ўсе зручнасці. Цяпер вадой цябе на абальюць. Як бывала: лужа стаіць, машына праехала, абліла вадой. Ішоў на працу – разварочвайся і ідзі дамоў пераапранацца.

Работы запланаваныя на ўчастку ад райаддзела міліцыі да чыгуначнага пераезду. Скончыць іх мяркуюць у лістападзе. А пакуль частка вуліцы перакрытая для руху машын.

### Ля калгаснага рынку зробяць паркоўку

Значнае пераўтварэнне чакае тэрыторыю ля калгаснага рынку.

– Па праекце там пабудуюць паркоўку на 21 месца. Праезную частку выпрамяць, з абодвух бакоў паставяць бардзюры. А перад шапікамі пабудуюць тратуар, – расказвае Ніна Сялюн.

Аб'ём работ на аб'екце вялікі, праводзілі тэндар. Выйграла яго ПМК-212 з Маладзечна.

Пераўтварэнне вуліцы – гэта толькі пачатак праекта.

– Вуліца 1 Мая – гэта першая чарга вялікага праекта. Ён называецца "Будаўніцтва сетак ліўневай каналізацыі па вуліцах 1 Мая і Чапаева ў Вілейцы". Сёлета вядуцца работы на першай чарзе праекта, – кажа Ніна Сялюн.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

НАШЫ ГРОШЫ

# Валожынскі раён абышоў Маладзечанскі па заробках

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ

**Паводле справаздачы Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Міншчыны намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата за жнівень у вобласці перавысіла сем мільёнаў 100 тысяч рублёў.**

Па выніках паўгоддзя сярод раёнаў нашага рэгіёна лідзіраваў Маладзечанскі. Але зараз яго абышоў Валожынскі раён. Тут налічаны заробак шэсць мільёнаў 166 тысяч. У Маладзечанскім – без некалькіх тысяч шэсць мільёнаў.

У Вілейскім раёне налічаны заробак складае пяць мільёнаў 929 тысяч рублёў.

На апошняе месца ў рэгіёне апусціўся Мядзельскі: тут налічылі крыху больш за пяць мільёнаў 900 тысяч рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЁСКА

# Вызначылі лепшы падворак у вясковай моладзі

ВІЛЕЙКА

**На Вілейшчыне ўзнагародзілі пераможцаў.**

Гэты конкурс стаў ужо традыцыйным. Праводзілі яго раённы Савет дэпутатаў сумесна з райвыканкамам.

У конкурсе прынялі ўдзел шэсць маладых сем'яў.

За актыўны ўдзел узнагародзілі сем'і **Аляксандра** і **Кацярыны Мілер** з вёскі Балашы Крывасельскага сельсавета і **Анатоля** і **Людмілы Васькоўскіх** са Сцешыцаў Людвіноўскага сельсавета.

Пераможцам жа конкурсу стала сям'я Шэрых з Ільі. **Максім** і **Наталля** – родам з гэтай вёскі. Выхоўваюць яны дваіх дзяцей – **Мацвея** і **Серафіму**. Пра гэта расказала галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама **Вераніка Гайчук**.

Сем'і атрымалі падарункі і дыпломы. Напрыклад, пераможцам уручылі кававарку.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.10 руб. | 8.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 17 688,00 | **17 413,00** |
| Еўра | 19 845,00 | **19 562,00** |
| Злоты | 4 685,50 | **4 650,41** |
| Расійскі рубель | 268,89 | **270,47** |
| Грыўня | 825,31 | **829,99** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 7.10** | | |
| Еўра | 19650/19930 | **19500/19780** |
| Долар ЗША | 17550/17730 | **17400/17640** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.09 | 7.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 90 000 | **90 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37 900 | **38 900** |
| Селядзец, 1 кг | 49 500 | **49 500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115 000 | **121 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 16 500 | **16 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 10 000 | **10 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 4 800 | **4 500** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12 500 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Капуста, 1 кг | 4 000 | **4 000** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 9 900 | **12 500** |
| Лімоны, 1 кг | 39 500 | **39 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 900 | **27 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | **27 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **32 000** |
| Ківі, 1 кг | 34 900 | **34 900** |
| Нектарыны, 1 кг | 36 900 | **34 900** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 9 900 | **10 900** |
| Агуркі, 1 кг | 9 900 | **14 900** |
| Перац, 1 кг | 9 900 | **9 900** |
| Вінаград, 1 кг | 23 500 | **23 500** |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | **21 500** |
| Кавун, 1 кг | 3 500 | **3 500** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 10 000 | **12 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | **9 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19 900 | **19 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **15 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 3 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |




Бацькі дзіцяці звярнуліся па медыцынскую дапамогу праз тры дні пасля таго, як захрасла костачка.

# Дактары вырататавалі дзіця, у стравaводзе якога захрасла костка

АСТРАВЕЦ

**Аднагадовага Арцёма даставілі ў Гродзенскую абласную дзіцячую клінічную бальніцу з Астраўца. Малы не мог глытаць: ад голаду ў яго ўжо з'явіліся сімптомы абязводжвання арганізма.**

Як высветлілася, пакінуты без нагляду хлопчык знайшоў у садзе сліву і, як любяць рабіць маленькія дзеці, паклаў сабе ў рот. Костачка захрасла ў стравaводзе дзіцяці, піша "Гродзенская праўда".

Сітуацыя пагоршылася тым, што бацькі звярнуліся па меддапамогу толькі праз трое сутак. На месцы стаяння костачкі развіўся моцны ацёк, пачалося заражэнне слізістай абалонкі стравaвода, што пагражала найсур'ёзнейшымі ўскладненнямі. Дактары спрабавалі дастаць іншароднае цела са стравaвода пры дапамозе фібрагастраскапіі, але перашкаджалі ацёк і назапашаная ў правсеце ежа, якую маленькі Арцём дарма спрабаваў праглынуць. Не выраўшыў праблему і эзафагаскоп: костачка была глыбока і як быццам "ўрасла" ў сценку стравaвода.

Выдаляць яе пры дапамозе адкрытага хірургічнага ўмяшання азначала складаную і вельмі траўматычную аперацыю, з доўгім знаходжаннем у рэанімацыі.

У няпростай сітуацыі брыгада дактароў-рэаніматолагаў дзіцячай бальніцы на чале з **Дзмітрыем Міскевічам** прынялі неардынарнае рашэнне: прымяніць бронхаскапічную тэхніку, якую выкарыстоўваюць для дыягностыкі і выдалення іншародных цел з ніжніх дыхальных шляхоў.

Костачку ўдалося зрушыць з месца і выдаліць. Дарэчы, у практыцы Дзмітрыя Міскевіча гэта ўжо другі выпадак, калі даставалі іншароднае цела неардынарным спосабам.

Праз суткі Арцёма перавялі з аддзялення рэанімацыі, а праз пяць дзён выпісалі дадому. Праблем з глытаннем у яго больш няма.

Гэты выпадак, які дзякуючы прафесіяналізму хірургаў абласной дзіцячай бальніцы меў станоўчы вынік, можа служыць урокам для ўсіх бацькоў. Не пакідайце маленькіх дзяцей без нагляду.

**Ганна ЛЕНСКАЯ, "Гродзенская праўда".**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Сутыкнуліся МАЗ і УАЗ – загінуў кіроўца

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна 30 верасня пасля 10:00.

Кіроўца аўтамабіля УАЗ пры выездзе на галоўную дарогу не саступіў аўтамабілю МАЗ. Машыны сутыкнуліся.

У выніку 45-гадовы кіроўца УАЗа атрымаў траўмы, ад якіх памёр на месцы здарэння. Ён не быў прышпілены рэменем бяспекі.

**Паводле ДАІ Беларусі.**

## У аварыі пацярпелі трое, кіроўца памерла

МЯДЗЕЛ

Аварыя здарылася паблізу вёскі Княгінін Мядзельскага раёна 2 кастрычніка.

Каля дзевяці гадзін вечара аўтамабіль "Форд" пры выездзе з другараднай дарогі сутыкнуўся з аўтамабілем "Пежо". Той рухаўся па галоўнай дарозе.

У выніку 57-гадовая кіроўца "Форда" і два пасажыры "Пежо" (49-гадовая жанчына і 31-гадовы мужчына) траўмаваныя.

Праз дзве гадзіны кіроўца "Форда" памерла ў бальніцы.

**Паводле ДАІ Беларусі.**

## Маладзён забег у царкву і ўдарыў пастара

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 19 жніўня на Валожыне.

Нецвярозы 21-гадовы маладзён зайшоў у будынак рэлігійнага таварыства хрысціян веры евангельскай, дзе ішла служба, і ўдарыў спачатку верніка, а потым – пастара. Пра гэта паведамляе намеснік пракурора Валожынскага раёна **Сяргей Габрукoвіч**.

Маладзёна заключылі пад варту. Справу накіравалі ў суд.

**Аддзел інфармацыі.**

● ВЫХАВАННЕ

# Як правільна заняць дзіця гурткамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Занятасць дзяцей, іх дадатковая адукацыя і вольны час вельмі моцна ўплываюць на дарослае жыццё. Бацькам варта паставіцца да гэтага пытання з усёй сур’ёзнасцю.**

У нашым цэнтры “Фарбы жыцця” мы прапануем і бізнес-трэнінгі, тэмы сямейнай псіхалогіі, клубы па інтарэсах для дарослых і дзяцей. Але любімы накірунак, у якім паспяхова працуем шмат год, – праца з дзецьмі.

**Як дзіцяці навучыцца вучыцца**

Калі дзіця пачынае навучальны год, яму вельмі трывожна. Дапамагайце пераадолець гэты перыяд. Кажыце, што любіце яго, хваліце. Не спяшайцеся пасля школы садзіцца за ўрокі, дайце 1-2 гадзіны на адпачынак. Кожныя паўгадзіны падчас выканання хатняга задання рабіце перапынак на 10 хвілін.

**Калі аддаваць у гурткі і секцыі**

Цяпер існуюць групы ранняга развіцця, дзе з дзеткамі займаюцца ўжо з шасці месяцаў. Але найперш заняткі павінны прыносіць задавальненне маленькаму чалавеку.

**Як выбраць накірунак?**

Паназірайце, чым хочацца займацца дзіцяці. Ён падтанцоўвае, калі чуе музыку, ці з захапленнем малюе? Цяпер існуюць пробныя заняткі, падчас якіх вы з дзіцем можаце бясплатна прайсці тэст-драйв.

Спытайце дзіця, ці хоча прыйсці на заняткі яшчэ раз. Пастарайцеся абіраць групы з найменшай колькасцю дзяцей, каб атрымае максімальную ўвагу педагогаў.

**У цэнтры “Фарбы жыцця” вы зможаце атрымаць бясплатную дыягностыку накірункаў і індывідуальных адметнасцяў асобы.**

**Колькі гурткоў пажадана выбіраць?**

Часам бацькі імкнуцца даць дзіцяці ўсё, што толькі магчыма, распісваючы графік ад 5 раніцы да позняга вечара. Да гэтага дадаюцца ўсё больш складаныя школьныя ўрокі, асабліва ў адносінах з аднакласнікамі, адказнасць.

Часам бацькі спрабуюць падбадзёрыць нібыта матывуючымі заклікамі: “Не прымушай нас чырванець”, “Твой тата быў чэмпіёнам, і ты будзеш”, “Бяры прыклад з Машачкі, у яе атрымліваецца лепш”. Выкіньце гэтыя фразы ў сметніцу, яны толькі яшчэ больш ускладняюць сітуацыю.



Фота happy-with-kids.ru

Галоўнае, каб заняткі прыносілі задавальненне дзіцяці.

Каб вылічыць аптымальную нагрузку па гуртках і секцыях, майце на ўвазе колькасць урокаў і аб’ём хатніх заданняў, ці займаліся хлопчык або дзяўчынка ў гуртках раней. Абавязкова ўлічыце індывідуальныя асаблівасці: актыўнасць і стамляемасць, а таксама наколькі ваша дзіця зацікаўленае.

Калі дзіця з чатырох год прафесійна займаецца спортам, верагодна, наконт нагрузкі ці можаце даверыцца трэнеру. А вось уводзіць дадатковы гурток ці рэпетытара лепш не раней, чым у 7-8 год.

Калі толькі сталі наведваць гурток, пачынайце з 30 хвілін у дзень.

Дакладных нормаў у гэтым пытанні няма. Давярцеся сабе і адчуванням вашага дзіцяці.

Не перагружайце дачку ці сына, цікаўцеся заняткамі, навучыце правільна размяркоўваць час, арганізоўваць рабочае месца, станавіцца самастойным. Часцей кажыце, што ён у вас самы лепшы і вы заўсёды гатовыя дапамагчы, але верыце, што змогжа справіцца сам.

**Якія гурткі можна сумяшчаць?**

Першакласнікам дастаткова аднаго гуртка. А больш старэйшых дзяцей абмяжоўваць не варта, калі ім заняткі даспадобы і на ўсё хапае часу. Калі яшчэ яны змогуць паспрабаваць сябе ў самых розных галінах?

Чаму хлопец, які займаецца радыётэхнікай, не можа стаць таленавітым скрыпачом ці паспяховым шахматыстам?

**Ці ёсць паказанні на нагрузкі?**

У першую чаргу, паказанні тычацца вельмі актыўных дзяцей, чыю энергію варта накіроўваць у “мірнае русла”. Тут выдатна падыдуць спартыўныя секцыі ці турыстычныя гурткі.

Для хлопчыкаў і дзяўчынак з лішняй вагой ці парушэннямі апорна-рухальнай сістэмы можа падысці басейн, але спярша звярніцеся да педыятра.

Калі дзіця хоча добра выступаць і прыгожа гаварыць, адпраўляйце ў тэатральны гурток ці на курсы канферансье.

**Ці здараюцца супрацьпаказанні?**

Звычайна яны медыцынскія. Таму кансультацыя доктара падчас выбару гуртка, асабліва звязанага з фізічнымі нагрузкамі, лішняй не будзе.

**Плюсы і мінусы пазашкольнай работы**

Усё добра ў меру. Таму мінусы з’яўляюцца, калі дзіця перагружанае.

Заняткі амаль у любым гуртку навучаць працаваць у калектыве, будаваць адносіны. Змена дзейнасці дапамагае адпачыць ад школьных заняткаў і назапасіць адметныя навыкі. Яны дапамагаюць адчуваць больш упэўненым у сабе.

Дзеці з актыўнай дзейнасцю маюць добрую самаацэнку і актыўную пазіцыю, свабодныя ад навязаных комплексаў. Яны лепш слухаюць іншых, маюць аўтарытэты – трэнера ці інструктара.

Калі дзіця занятае любімай справай, то наўрад ці захоча шукаць час на хуліганства. Гурткі фарміруюць добрае кола сяброў, кампанію людзей, якія блізкія па мэтах, захапленнях і памкненнях.

**Анастасія ЕЎДАКІМЕНКА-ЛІСОЎСКАЯ,
Марына НОВІК,
заснавальнікі цэнтра развіцця і вольнага часу “Фарбы жыцця”, псіхолагі, вядучыя трэнінгаў.**



**У наш час газ з’яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

# Служба 104 інфармуе

З паніжэннем тэмпературы навакольнага паветра ўладальнікі індывідуальных жылых дамоў пачалі рэгулярна выкарыстоўваць ацяпляльныя газавыя катлы і воданагравальнікі. Аднак пры гэтым не заўсёды выконваюць элементарныя патрабаванні правілаў бяспекі. Кожны год на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадам.

**Пры спальванні газавага паліва**, пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя), з прычыны няпоўнага згарання выдзяляецца чад, які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання выходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы (коміны). Пры іх няспраўнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, дзе ўсталяваныя газавыя прыборы. З-за гэтага можа адбыцца атручэнне чадам. Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з’яўляецца моцнадзейным ядам.

**28 лістапада 2014 года** адбылося атручэнне чадам трох чалавек па вуліцы 2-й Шчорса, 3, кв.43 у Мінску. Было ўстаноўлена, што ў кухні ўсталяваны газавы воданагравальнік і варачная панэль. Дзверцы прачысной кішэні на дымавым канале для адводу прадуктаў згарання ад газавага воданагравальніка не закрываліся герметычна. У памяшканні кухні адсутнічала натуральная вентыляцыя, бо ў вентыляцыйны канал ўмантаваная электравыцяжка ад варачнай панэлі, адсутнічалі падрэзы дзвярэй, у вокнах ўстаноўленыя шклопакеты. Быў адключаны датчык цягі ў газавым воданагравальніку. Пры рабоце выцяжнога вентылятара і праточнага воданагравальніка ў кухні і сумешчаных памяшканнях ствараласяразрэджанне, і, як вынік, у коміне ўзнікала зваротная цяга. А так як датчык цягі ў воданагравальніку быў адключаны, воданагравальнік працягваў працаваць і прадукты згарання паступалі ў памяшканне кухні, што і прывяло да атручэння.

**Адной з асноўных прычын няспраўнасці** комінаў з’яўляецца забруджванне. У іх шмат сажы, яны засыпаюцца смеццем, часам у іх трапляюць птушкі, разбураецца цагляная кладка.

**Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.**

У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодный паверхні коміна. У зімовы перыяд гэта можа прывесці да абмярзання агалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закаркоўвання і, як вынік, – пранікненне чаду ў памяшканне.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, нагадваем:**

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а ў зімовы перыяд рэгулярна аглядаць агаловак каналаў для прадухілення іх абмярзання;
- дымавыя і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы: ацяпляльнага газавага абсталявання – незалежна ад матэрыялу, з якога яны выраблены, – перад ацяпляльным сезонам; праточных газавых воданагравальнікаў – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны выраблены: цагляныя – не радзей 1 разу ў 3 месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў гарачаўстойлівага бетону – не радзей 1 разу ў год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавае абсталяванне, абавязаны выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць;

- забараняецца ўключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- перад распальваннем катла або воданагравальніка трэба абавязкова праверыць наяўнасць цягі ў коміне, вентыляцыйным канале;
- памяшканне, у якім устаноўленыя газавыя прыборы, павінна рэгулярна праветрывацца;
- забаронена ўсталёўваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы;
- забараняецца пакідаць без нагляду уключаную газавую пліту;
- забараняецца сушыць рэчы над полымем газавай гарэлкі;
- забараняецца карыстацца газавым абсталяваннем, якое знаходзіцца ў эксплуатацыі больш за 20 гадоў.

**За парушэнне “Правілаў карыстання газам у побыце”**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнчая арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

**Адказнасць за няспраўны стан** газавага абсталявання, вентыляцыйных каналаў і комінаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, за парушэнне патрабаванняў бяспекі пры карыстанні газавым абсталяваннем ускладаецца на наймальніка або ўласніка жылых памяшканняў і дамоў.

**Паважаныя абаненты, ніколі не грэбуйце правіламі бяспекі. Паклапаціцеся аб захаванні свайго жыцця і жыцця сваіх родных.**

АСОБЫ

# Юрась Церабун: на смаргонскі вакзал хадзіў як у галерэю

МАЛАДЗЕЧНА

**Мастак і выкладчык цымбалаў Юрась Церабун успамінае пра тое, як смаргонскі вакзал стаў яго першай карціннай галерэяй, чаму, пайшоўшы маляваць эцюды, так і не адкрыў свой альбом і як вучаніца з ходу пераклала эпіграф "Зоркі Венеры".**



Юрась Церабун са сваімі былымі вучаніцамі. Побач з маэстра – Наталля Малькевіч, выкладчыца цымбалаў Акадэміі музыкі, у другім шэрагу – Кацярына Сянько (злева) і Вольга Гардзей, таксама выкладчыцы цымбалаў у Маладзечанскай музычнай школе і музычным каледжы.

Фота з архіва Юрася ЦЕРАБУНА.

"З выяўленчым мастацтвам пазнаёміўся ў Смаргоні. На чыгуначным вакзале ў зале чакання віселі дзве вялізныя карціны.

Першая – "Прыбой" **Віктара Пузыркова** і другая карціна – "Карабельны гай" **Івана Шышкіна.** На кожным творы быў надпіс: "Капіраваў І.Д. Рудчык".

**Іван Дзям'янавіч Рудчык**, мастак з Брэста, быў вялікім сябрам нашай **Ядвігі Раздзялоўскай**.

Кожны дзень я хадзіў на сустрэчу з гэтымі творамі нібы ў Трацякоўку.

Гэта потым у маім жыцці будуць і сапраўдная Трацякоўская галерэя, і галерэі Дрэздэна, Будапешта, Барселоны, іншых гарадоў.

Тут, у Смаргоні, я пазнаёміўся з мясцовым мастаком **Эдуардам Жакевічам**. Ён працаваў у кінатэатры з сынам **Эдзікам**. Жылі яны тады на Святлянскай вуліцы, і Жакевіч-малодшы запрасіў мяне на эцюды. Выйшлі за сад і селі пад агароджу. Мастак дастаў папулярную ў той час жалезную ручку на два канцы з вучнёўскімі пёрамі. Узяў тушь і без усялякага алоўкавага накіду пачаў маляваць.

**З-пад пяра выходзіла віртуознейшая графіка, і, што самае галоўнае, краявід быў вельмі падобны. Ад здзіўлення і сораму я нават не адкрыў свой альбом.**

Цяпер Эдуард Эдуардавіч дацэнт аддзялення прамысловай графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў…

## Першыя цымбалы зрабіў сабе сам

…Дзяцінства прайшло ў Смаргоні. Бацька, які працаваў на лесазаводзе, прывозіў дровы, у якіх было шмат абрэзкаў.

І я браў іх і рабіў сабе цымбалы, якія калісьці пабачыў у вясельнага музыкі.

Ад студні раскручваў лінку на струны, якія чапляў на цвічкі, набітыя з бакоў, падымаў іх на падстаўку і цымбаліў.

Потым, калі мне было гадоў восем, смаргонскі "Макаранка" – заслужаны дзеяч культуры БССР **Аляксандр Дзяруга** – выдаў мне сапраўдныя фабрычныя цымбалы.

У раённым Доме культуры ён вёў цымбальны аркестр і шукаў здольных дзяцей у падрыхтоўчую групу. Так хлапчук Юрась звязаў свой лёс з цымбаламі і музыкай.

Пасля заканчэння музычнай вучэльні прапанавалі працаваць у Маладзечне.

Шмат таленавітых дзяцей вучылася ў маім класе ў Маладзечанскай дзіцячай музычнай школе.

Дзеці жылі як адна вялікая творчая сям'я: малявалі, пісалі вершы, музыку, дапамагалі адзін аднаму рабіць урокі, забаўляліся развівальнымі гульнямі на хуткую рэакцыю, мысленне і каардынацыю рухаў.

## Вучаніца складала кубік Рубіка і рабіла пераклады ў лічаныя хвіліны

Мы з вучнямі дамаўляліся, што яны будуць хадзіць на гарадскія выставы, каб потым расказваць, што спадабалася і чаму да ўвагі браліся сюжэт, кампазіцыя, колер, матэрыялы і тэхніка выканання.

Вядома, дзецям было не проста адрозніць, дзе каляровая гама твора ў каларыце, а дзе звычайная расфарбоўка, але яны вучыліся.

Пастаянна ездзілі на выставы ў Мінск.

**Да нас у клас заўсёды завітвалі мае сябры, маладзечанскія мастакі.**

Яны прасілі дзяцей пайграць на цымбалах, і тыя ахвотна дэманстравалі свае майстэрства.

Любілі вучні Вязынку і святы паэзіі ў Ракуцёўшчыне, наведвалі канцэрты знакамітых выканаўцаў у музычным вучылішчы. У маіх вучняў музыка і мастацтва заўсёды ішлі побач.

З вялікай цеплынёй я ўспамінаю сваю былую вучаніцу **Наталлю Сліжову**.

Зараз яна дырэктар дзіцячай музычнай школы ў Вілейцы.

Мяне заўсёды здзіўляла яе зусім недзіцячае мысленне.

За лічаныя хвіліны яна складала кубік Рубіка, які толькі ў той час з'явіўся.

Вучылася Наташа ў школе №3, вывучала французскую мову.

Калі я папрасіў яе перакласці эпіграф да твора **Максіма Багдановіча** "Зорка Венера", яна вачыма прабегла па тэксце, на хвілінку задумалася і сказала: "Запісвайце".

Цяпер я маю літаратурны пераклад радкоў, якія напісаў Сюлі Прудом і мне ў гэтым дапамог **Міхась Казлоўскі**, але на ўсё жыццё запомніў змест радкоў, што пераклала вучаніца Наташа Сліжова…

…У нашым класе нарадзілася ідэя праводзіць у раёне адкрыты фестываль "Гучаць цымбалы на зямлі Купалы". Ён праходзіць у маляўнічым пасёлку Чысць і мае сёння поспех і аўтарытэт".

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**мастак, выкладчык цымбалаў, пенсіянер, маладзечанец.**

КРАЯЗНАЎСТВА

# Ашмянак не пускалі ў дом да мужа, пакуль не наведаюць "Нявесцін камень"

АШМЯНЫ

**Помнік прыроды "Нявесцін камень" урачыста адкрылі ў Ашмянах у мінулыя выхадныя.**

Пра тое, як аднаўлялі помнік і добраўпарадкавалі тэрыторыю, "Рэгіянальнай газеце" распавяла дырэктар бібліятэкі **Марына Белавус.**

– Помнік, вядома, не адкрывалі. Ён ляжыць на сваім месцы ўжо шмат стагоддзяў. Помнік гэты рэспубліканскага значэння. З ім звязана безліч паданняў і легенд. А назву "Нявесцін камень" ён носіць такую, бо лічыцца, што дапамагае жанчынам у шлюбе і мацярынстве. Да яго прыводзяць і маленькіх дзетак, каб засцерагчы іх ад хваробы ці нават вылечыць.

А вось зрабіць да яго падыход, усталяваць інфармацыйную шыльду, выдаць брашуру з паданнямі і легендамі пра гэты камень у краязнаўчага аматарскага аб'яднання "Знай край" атрымалася дзякуючы ўдзелу ў праекце "Тандэм", пераможцам якога "Знай край" і стаў. Каардынуе праект **Вольга Тарашкевіч.**

– Падчас рэалізацыі праекта, – працягвае Марына Белавус, – намі была праведзеная вялікая даследчая праца, у рамках праекта зладзілі канферэнцыю "Валуны – маякі гісторыі", на якую запрасілі вучоных з Акадэміі навук Беларусі. Ладзіліся этнаграфічныя экспедыцыі.

Экспедыцыі праходзілі ў вёсках, ля якіх ляжыць гэты камень. Распытвалі пра яго ва ўсіх мясцовых жыхароў. І ўсе легенды, паданні, гісторыі, міфы ўвайшлі ў кнігу, якую так і назвалі "Нявесцін камень".

Цяпер гэта кніга знаходзіцца ў фондах бібліятэкі, і яе можа пачытаць кожны, хто цікавіцца гісторыяй Ашмяншчыны або мясцовымі ці незвычайнымі гісторыямі.

На пытанне, ці паспрабавалі на сабе цудадзейную сілу каменя ўдзельнікі аб'яднання "Знай край", Марына Белавус адказала:

– Яшчэ ў мінулым годзе, калі мы рыхтавалі камень да семінару, адна наша калега надта старанна цёрла камень. І што вы думаеце, у свае 50 гадоў нядаўна справіла вяселле.

Знайсці дзіўны камень вельмі проста. Ён знаходзіцца каля трасы "Мінск-Вільня", за чатыры кіламетры ад Ашмянаў.

– Мы там паставілі вялізны банер з інфармацыяй пра камень, так што абмінуць яго немагчыма. Каля "Нявесцінага каменя" заўсёды можна знайсці грошы, манеткі, іншыя рэчы, якія пакідаюць людзі ў знак падзякі. А вы ведаеце, што раней ва ўсіх навакольных вёсках і ў саміх Ашмянах нявесту не пускалі ў дом да мужа, пакуль яна не сходзіць да "Нявесцінага каменя".

Чаму б і сёння не адрадзіць гэту традыцыю?

**Наталля ТУР.**



"Нявесцін камень" лічыцца абярэгам для жанчын і дзяцей.

Фота osh.by.

ПАДЗЕІ

# "Краяны" запрашаюць на сход

МАЛАДЗЕЧНА

**У аўторак, 13 кастрычніка**, таварыства ўкраінцаў "Краяны" праводзіць справаздачна-выбарны сход.

Запрашаем усіх сяброў таварыства, а таксама ахвотных далучыцца да яго жыцця.

Мерапрыемства пройдзе **а 18 гадзіне** па адрасе: *Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 3-а.*

**Кіраўніцтва таварыства "Краяны".**



## ВІНШАВАНКА

**Дарагому Алесю ВЫСОЦКАМУ з Мядзела**
**Віншуем з юбілеем!**

Мы вельмі ганарымся, што ў адной камандзе з намі ёсць такі надзейны калега і выдатная асоба.

Няхай цябе чакае безліч адкрыццяў і дасягненняў, няхай твае жыцце напаўняюць чароўныя моманты, а час радасці падзяляюць блізкія людзі.

**Калектыў "РГ".**

**З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ Ілоне Барысаўне РАМАНОЎСКАЙ з Маладзечна**



Віншую маю маму з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, душэўнай маладосці, паболей радасці, цяпла, любові, шчасця і ўсмешак. Няхай у жыцці ўсё атрымоўваецца.

**Ад сына Багдана** ☺



## ТРАНСПАРТ

- БМВ-5, 1997 г.в., 2,0Б, 39 кузаў, чорны седан. Т. (8-029) 9767744, (8-029) 5891926.
- ВАЗ-11113. ОКА, аб'ём 0,75, ТА, 13 000 000 руб. Т. (8-029) 3790419.*
- Дэа-Лачэці, 2003 г.в., з Германіі, добры стан. Т. Вэлком (8-029) 6406904.
- Матацыкл "Мінск". Т. (8-029) 7617385.
- Мікрааўтобус Мерседэс-Спрынтар, 2014 г.в. Т. (8-029) 5768868.*
- Міцубісі-Харызма, 1995 г.в., 1,6Б, зялёны. Т. (8-029) 6865329, (8-0176) 741879.*
- Опель-Вектра,1993 г.в., 1,7ТД, 19 000 000 руб. Т. (8-029) 7038367.

**Тэлефонныя коды**

| гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |



- Прычэп-дача (кэмпінг), 1990 г.в, добры стан, халадзільнік, газ. пліта, духоўка, ацяпленне, біятуалет+ калідор, плюс 2-месная палатка. Т. (8-044) 7456944, (8-044) 4707281.
- Рэно-Лагуна, 1996 г.в., 1,8Б, нармальны стан, 25 000 000 руб. Т. (8-029) 7056221.
- Рэно-Меган, хэтчбэк, 1998 г.в., 1,6 газ-бензін. Прабег 260,0. Т. МТС (8-029) 7571651, Вэлком (8-029) 3437838.
- Рэно-Меган-Сцэнік, 1998 г.в., 1,6 бензін. Т. Вэлком (8-044) 7466934.
- Сеат-Ібіца, 1996 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 2602492, (8-01771) 68401.
- Сітраэн-Ксантыя, 1999 г.в., 1,9ТДІ. Т. (8-029) 9161792.*
- Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., 1,9 турбадызель, бардовы. Т. (8-044) 7631059.*
- Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., 1,9 турбадызель, універсал. Колер серабрысты металік. Тэрмінова. Торг ля капота. Т. Вэлком (8-029) 6046748.
- Сузукі вагон R+, 2001 г.в., бензін, у выдатным стане, камплект зімовай гумы ў падарунак. Цана 56 400 000 руб. Т. (8-029) 9382951.*
- УАЗ-452 бартавы, дызель, на ходу. Т. (8-029) 9384941.
- ФВ Т-2, пасажырскі, 1989 г.в., 1,6 дызель. Т. (8-029) 8609061.
- ФВ-Вента, 1995 г.в., 1,8 бензін, чорны. Т. (8-029) 8567796, (8-029) 3086784.*
- ФВ-Пасат В6, 2008 г.в., тэрмінова, вельмі танна. Т. (8-029) 2599546.
- ФВ-Шаран, 1998 г.в., 1,9ТДІ, ці абмен на меншую. Т. (8-029) 5010538.
- Форд-Мандэа, 1993 г.в., 1,8 дызель, 27 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 7603106, Вэлком (8-029) 3342159.*
- **ФОРД-СІЕРА**, 1988 г.в, 2,0Б, седан, 12 000 000 руб. Т. (8-033) 6008152.
- Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3Б, у добрым стане, 16 000 000,торг. Вілейка. Т. (8-029) 6194636.*



- Шаўрале-Спарк, 2012 г.в.,з Германіі, свежапрыгнаны, 5 дзвярэй, чорны, хэтчбэк, 71 тыс. км, 2 ключы, 120 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 6631595.*
- Шкода-Фабія, 2010 г.в., 1,2 бензін, хэтчбэк, рэстайлінг, чэшская зборка, тэрмінова. Маладзечна. Т. (8-029) 5641986.
- З/часткі да БМВ-325, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*
- З/часткі да Мерседэса 190, 1987 г.в., 2,0Д. Т. (8-029) 7792477.*
- З/часткі да Опель-Кадет, 1986 г.в., 1,6Д. Т. (8-033) 355613.*
- З/часткі да Форд-Эскорт, 1994 г.в., 1,8Д. Т. (8-044) 7387127.*
- **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*
- Запчасткі б/у да Форда-Сіеры. Т. (8-029) 6578681.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава. а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Мікрааўтобус у любым стане для сябе. Т. (8-025) 6512343, (8-029) 1989647.



### ПАСЛУГІ

- **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- Арэнда **ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** АМКАДОР (коўш 2 куб. м), **ЭКСКАВАТАРЫ-ПАГРУЗЧЫКІ** JCB4CX і Беларус 92П (планіроўка, падрыхтоўка ўчастка, катлаваны, траншэі, мантаж калодзежаў, пагрузка смецця), **САМАЗВАЛЫ** 10-, 20-, 30- і 40-тонныя (**БЕТОН**, пясок, гравій, шчэбень, **ПРЫРОДНЫ КАМЕНЬ**, вываз смецця, **ЗНОС БУДЫНКАЎ**), **АЎТАБЕТОНАЗМЯШАЛЬНІК** 6 куб. м, **ГІДРАМАНІПУЛЯТАР** з прычэпам 22 тоны (16 паддонаў). ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*
- **АРЭНДА ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** ТО-18Б, катлаваны, пагрузка, планіроўка. ІП Каўпак О.Т. УНП 691500412. Т. (8-044) 7645096.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі міні-пагрузчыка, мініэкскаватара, колавага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, 111, цагляны дом, 71,3 кв.м Т. (8-029) 8650787.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Незалежнасці, 5/5 панэль, агул. плошча 58/30,2 кв. м, с/в раздзельны, лічыльнікі вады, тэлефон, патрэбны рамонт, 550 000 000 руб, торг.Т. (8-033) 3297613.
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-044) 7576072.



- 2-пакаёвая кватэра, гараж у Вілейцы. Т. (8-029) 7078401.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Нядорага. Т. (8-029) 2694696.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 1 паверх. Т. (8-029) 6888111.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, д,119, 1980 г, дом цагляны, 64,4 кв. м. Т. (8-029) 6411879.*
- 3-пакаёвая кватэра ў мікрараёне Зеніт. Т. (8-029) 5609396.
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, 6х4, у выдатным стане. Т. (8-029) 8575375.
- Гараж у ГК №29 у Маладзечне. Т. (8-029) 5028269.*
- Дачны участак з блочным домікам у в. Маркаўцы, 8 км ад Смаргоні. Водаправод. Т. (8-01592) 45629, (8-033) 3215884.
- Дом жылы ў в. Лылойці Смаргонскага р-на. Тэрмінова. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, сад. Цана дагаворная. Т. (8-029) 9890523.*
- Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участок 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы афармленыя. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*
- Дом у в. Івашкоўцы Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 6075648.*
- Дом у в.Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.
- Дом у Вілейцы плошчай 90 кв.м, 15 сотак, вялікі гараж, хлеў, склеп, сад. Еўрарамонт, ацяпленне, газ, водаправод. Т. (8-029) 5581494.*
- Дом у Вілейцы, зав. Каралёва, д.16 (Воўкаўшчына). Агульная плошча 57,0 кв. м. Ёсць прысядзібны ўчастак. Т. МТС (8-029) 8778529.
- Дом. Т. (8-0176) 703543, (8-044) 7510387.

### КУПЛЮ

- Дом. Т. (8-029) 3780215.*

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру ў Смаргоні. Т. (8-029) 6080883, (8-029) 6353589.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Відэаздымка вяселляў, банкетаў і інш. урачыстасцяў. Падарыце сабе фільм, які будзе цікава глядзець doўгія гады! ІП Сысоеў А.А., УНП 691892382. Т. (8-029) 5063428.*
- Вяселлі. Юбілеі. Карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж. Усю восень скідка 30% на вытворчасць вясельных фільмаў. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Грузаперавозкі да 3 тон, горад, РБ, кватэрныя пераезды. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі да 4 т, тэнтаваны, дубль кабіна, 6 (шэсць) пасажыраў. ІП Шалуха С.Ф. УНП 690021247. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*
- Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзівілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*
- Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Мерседэс, 3,5 т, 20 куб. м, санпашпарт, санкніжка, хутка, нядорага. ІП Шыкін А.У. УНП 691507751. Т. (8-029) 8605068.*
- Рэно 20 т, 13,6 м, адкрыты, бартавы, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

СПОРТ

# Воркаўт-пляцоўку адкрылі з конкурсамі і выступленнем рэкардсмена свету

ВІЛЕЙКА

**У гарадскім парку ў Вілейцы 3 кастрычніка адбылося адкрыццё пляцоўкі для воркаўта.**

Пабудавалі яе пры фінансавай падтрымцы дабрачыннага фонду імя Прападобнай Ефрасінні Полацкай, заснавальнікам якога з'яўляецца ўраджэнец Вілейкі **Валеры Шумскі**.

Моладзі на адкрыццё сабралася шмат. Іх чакалі відовішчныя выступленні камандаў па воркаўце з Вілейкі і Мінска, Смаргоні і Гродна. Паказаў сваю моц і цягавітасць рэкардсмен свету ў выхадзе сілай на дзве рукі **Максім Труханавец**.

Праводзілі розныя конкурсы з гледачамі. Актыўна адціскаліся і хлопчыкі, і дзяўчынкі – за што атрымлівалі прызы.

Вызначылі, хто з віляйчан найболей падцягваецца на турніку. **Віталь Зубаці** і **Андрэй Гіль** падцягнуліся аднолькавую колькасць разоў – 27. Каб вызначыць пераможцу, зноў залезлі на турнік і падцягваліся, пакуль хтосьці не здасца. У выніку выйграў Віталь. І ён, і Андрэй – удзельнікі вілейскай каманды па воркаўце.

## Налета ў Вілейцы плануюць правесці фестываль

Летась адкрылі пляцоўку для воркаўта ў Смаргоні, цяпер – у Вілейцы. Можа, і яшчэ дзе ў рэгіёне такая з'явіцца? Спыталі пра гэта ў **Таццяны Мельнікавай**, якая выконвае ролю сакратара грамадскага аб'яднання "Федэрацыя "Стрыт воркаўт".

– У 2016 годзе пры падтрымцы нашага пастаяннага спонсара плануецца пабудаваць пяць воркаўт-пляцовак у Беларусі, у тым ліку – у Гродне. Пра адкрыццё яшчэ адной пляцоўкі ў вашым рэгіёне пакуль інфармацыі ніякай няма, – адказала яна. – А вось фестываль па Street Workout плануецца правесці ў Вілейцы ў наступным годзе – накшталт таго, які прайшоў 1 жніўня ў Смаргоні. Для таго, каб працягнуць папулярызацыю воркаўта, падтрымліваць і стымуляваць цікавасць у моладзі да актыўнага ладу жыцця. Важна адзначыць, што спартыўная пляцоўка – гэта не толькі месца трэніровак. А яшчэ і месца кантактавання і абмену досведам, месца знаёмства і праўдзення вольнага часу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




**Віляйчане ўбачылі паказальныя выступленні камандаў па воркаўце.**

ГІСТОРЫЯ

# Міхал Клеафас Агінскі як афіцэр арміі,

## які ледзь не загінуў у паходзе на Валожыншчыну

*Працяг. Пачатак у №40*

ВАЛОЖЫН

**Споўнілася 250 год з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Усе мы яго ведаем як выдатнага кампазітара, палітыка, дыпламата і сенатара. Але мы амаль не ведаем яго як аднаго з самых выдатных афіцэраў арміі Тадэвуша Касцюшкі.**



У час паўстання Тадэвуша Касцюшкі Агінскаму было 29 год.

Я распавяду пра яго як пра камандзіра аднаго з самых баяздольных палкоў польскай арміі канца 18-га стагоддзя. А менавіта пра паход на Валожыншчыну.

### Прамова Агінскага ў Івянцы

Прыбыўшы ранкам да Івенца, не знайшлі там ані коней, ані павозак. Але таму, што гэта быў дзень парафіяльнага свята *(13 чэрвеня – дзень св. Антонія)*. Больш за 20 экіпажаў самых багатых жыхароў ваколіц, запрэжаных 4 ці 6 конямі, неўзабаве пачалі пад'язджаць да касцельнай брамы, а некалькі соцень мужыцкіх вазоў запоўніла рынкавую плошчу.

Звярнуўся да ўласнікаў, каб вызвалілі мяне ад гэтага клопату. Тэкст звароту наступны: "Жыхары, якія нарадзіліся ў адной Айчыне, але якія вымальніцкім чынам суседніх дзяржаваў з чэрава маці сваёй вырваныя, скіньце з сябе ганебнае гэта ярмо, якое вас з непадуладных палякаў робіць няшчаснымі нявольнікамі тырана, вазьміце ў рукі зброю, якой продкі вашы так умела маглі ўтаймоўваць ворагаў Айчыны, далучайцеся з вашымі сіламі да сілаў вашых братоў, як і добрыя сэрцы вашыя сапраўды з імі злучаныя.

Хай засаромеецца ад адзінай і згоднай сілы подлы тыран, што перад вамі фанабэрыцца, які лічыць, што, прыгнятаючы паляка, здолее і сэрца ягонае зрабіць нізкім; хай здрыганецца дэспат, гледзячы на запаленне, якое находзіць ад дабрачыннасці і адчаю; кожны з вас хай далучыцца да святой сувязі, якая ўзноўленая актам Кракаўскім пад кіраўніцтвам Касцюшкі, няхай будзе ў душы вашай тая праўдзівая справядлівасць, што дабрачыннасць і аднадушша спалохаць могуць і наймоцнага непрыяцеля. З уласнага досведу я сам ведаю, што, дзе толькі пакажацца жаўнер польскі, там заўсёды ці ахвярай робіцца, ці бяжыць непрыяцель, які звык да грабежніцтва, але які бяззбройных толькі палохае, а вояў і сам баіцца. Уступленне маё ў межы Мінскага ваяводства засведчаць бедствы Маскоўскіх войскаў, якія сапраўды штодзённа па дарозе бываюць разбітыя, і набыццё ад іх вялікай здабычы.

І так мы, браты і жыхары, усе цяпер увогуле смела на тым стаім, што ці вернем айчыне вольнасць, ці дамо сябе пахаваць у яе развалінах. А калі аб гэтым вам, жыхары, пасланы ад поўнай дабрачыннасці і мужнасці генерал-лейтэнанта войскаў Літоўскіх Ясінскага, паведамляю, а разам з тым і спадзяюся, што гэты мой заклік ажывіць у сэрцах вашых агонь. Універсал жа непераможнага Касцюшкі і акт Кракаўскі пакажуць вам спосаб, якім чынам можаце з'яднацца з намі; а на гэты выпадак рэкамендую, каб заклік разам з актам Кракаўскім пры дзвярах касцельных быў прыбіты, а копіі з іх па ўсіх парафіях разасланыя б былі, і гэта здзейсніць прашу вас любоўю да Айчыны".

Далей Агінскі працягвае: "Усе дабравольна пагадзіліся мне памагчы. Сказалі адпрэгчы найлепшых коней, якіх заправглі да 20-ці маскоўскіх павозак, нагружаных сукном і амуніцыяй. Сяляне, па іх прыкладу, даставілі столькі коней і павозак, колькі нам было трэба на працягу шасці гадзін. 170 добра нагладаваных павозак былі гатовыя пусціцца ў паход пад нашым экскортам. У той жа самы вечар пакінулі Івенец, выбіраючы іншы шлях, чым дагэтуль.

### Псавалі дарогі перад непрыяцелем

Трэба было вярнуцца да Бакштаў і знаходзіцца ў густых лясах, дарогі ў якіх былі заваленыя вывернутымі дрэвамі, часткова ветрам, часткова прадбачлівымі жыхарамі, якія хацелі сапсаваць дарогі перад непрыяцелем.

Страцілі восем гадзін часу на расчыстку сабе дарогі. Але нягледзячы на вялікую стому, выкліканую як хуткім, так і працяглым маршам, цешыліся, што адарваліся ад непрыяцеля.

Але раптам, падыходзячы да вёскі Сакаўшчына, за мілю ад Валожына, пачулі водгалас бубнаў, гукі труб і пранізлівыя вокрыкі салдат, якія разумелі, што маюць нас у пастцы.

Загадаў прыспешыць паход сваіх абозаў, якія вельмі шчасліва перайшлі мост праз Бярэзіну.

Застаўся ў тыле з атрадам кавалерыі, каб зважаць рух непрыяцеля. Перайшоўшы мост, сказаў афіцэру, якога заставіў разам з некалькімі дабравольцамі гэты мост спаліць. Думаў, што маскалі не змогуць перайсці гэту балоцістую мясціну ў брод, затрацяць шмат часу на пракладку сабе дарогі і не так шыбка нас дагоняць.

Выступілі далей, прыгнечаныя стомай, але спадзеючыся злучыцца з галоўнай кватэрай, якая, меркавалі, знаходзіцца за чатыры-пяць міль. Не ведалі дакладна, дзе яе знайсці, паколькі некалькі кур'ераў, што адправіў з некалькімі маімі рапартамі і весткамі аб кірунку маршруту, не маглі вярнуцца і прывезці мне якія-небудзь указанні.

### Няма падмацавання, авангард адступіў, афіцэр не выканаў загад

Ледзь толькі прыбылі да Вішнева, як даведаўся, што наш авангард пад камандаваннем брыгадзіра Юзафа Ваўжэцкага і палкоўніка Гаркоўскага вымушаны адысці у бор, аказаўшы слабае супраціўленне корпусу пад камандаваннем генерала Цыцыянава, які перасягаў па сіле. А таксама, што галоўная кватэра не пакінула свайго расквартавання і не можа прыслаць мне падмацавання, таму што трэба трымаць абарону. Напрыканцы, у дапаўненне меры няшчасця, паведамлена мне, што афіцэр Вайцяхоўскі, якому я загадаў спаліць мост на Бярэзіне, загадаў толькі зняць з яго дошкі і паспешна адышоў, выстаўляючы мяне на шыбкую пагоню і атаку маскалёў, якіх пакінулі ззаду.

Адбылося тое, што немагчыма было дапусціць. Менавіта ў тую хвіліну, калі казаў затрымаць усе абозы, якія з'ехалі з гары пад Вішневам, і шукаў на карце дарогі, якой мне трэба было пусціцца, не могучы ісці праз Боніны, значны атрад казакоў разам з палком Мікалая Зубава праляцеў галопам праз мястэчка Вішнеў. Ён засек некалькі маіх афіцэраў і марадзёраў, якія там засталіся і на якіх напалі неспадзявана. Каля 3000 чалавек з корпусу Кнорынга атакавалі нас з гарматамі з мэтай акружыць.

За першым знакам трывогі кінуўся на непрыяцеля, але хіба толькі 20 чалавек рушыла за мною, паколькі кавалерыя ўцякла. Стральцы мае сабраліся даць хоць які-небудзь адпор і затрымаць на які-небудзь час назойлівасць маскоўскай кавалерыі. Але ў канцы былі вымушаны адысці ў кусты, адкуль не перастаючы давалі агонь па непрыяцелю. Пасунуўшыся неразважліва наперад, займеў прабіты кулямі капялюш і не мінуча б загінуў, калі б афіцэр па прозвішчы Паўловіч не ўхапіў майго каня за цуглі і не вымусіў вярнуцца.

Страцію у гэтай расправе ўсе абозы, захопленыя ў Івенцы, сваю касу, якая ўтрымлівала 7000 дукатаў золатам, многа каштоўных для мяне прадметаў і ўсе мае паперы.

**Дванаццаць кавалерыстаў, каля 20-ці дабравольцаў, 25 стральцоў і ўсе мае слугі забітыя. За чвэрць мілі ад месца, дзе нас атакавалі, адшукалі сваю кавалерыю, якая рассеялася.**

Мужны маёр Корсак, конь якога пранёсся сярод шэрагаў непрыяцеля, вярнуўся да нас. А я, звярнуўшы да салдат, настаяў, каб вярнуцца і забяспечыць адступленне нашых стральцоў.

### Не страціць ніводнага чалавека

Мне ўдалося вывесці з сабой каля 150 чалавек. Хоць і бачылі мы ўсе абозы, акружаныя з боку Вішнева, стральцы мае адышлі ў лясы, а конніца непрыяцельская рухалася па нашых баках, каб нас акружыць і перашкодзіць нашаму адступленню. Было зразумела, што трэба адысці яшчэ раз і зрабіць гэта ў добрым парадку, не страціўшы ніводнага чалавека.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай бібліятэкі.**
**Працяг будзе.**

УДАКЛАДНЕННЕ

У N39 за 25 верасня ў артыкуле "Вілейскія вайсковыя брацкія могілкі" дапушчана памылка. Першы сказ апошняга абзаца часткі "Над салдатамі ляжаць мясцовыя жыхары" правільна чытаць так: "Да нашага часу захавалася толькі магіла Фёдара Кандрацьевіча Альфера, які загінуў у гады Першай сусветнай вайны". Просім прабачэння ў чытачоў.

**Рэдакцыя "РГ".**

КАЛЯНДАР

10 КАСТРЫЧНІКА

**75 гадоў** з дня нараджэння Канстанціна Тарасава (1940 – 2010), беларускага пісьменніка, публіцыста. Нарадзіўся ў Мінску ў сям'і служачага. Пасля заканчэння сярэдняй школы (1957) на працягу трох год працаваў слесарам-зборшчыкам на Мінскім механічным заводзе, калектарам у Паўночна-Заходняй геолага-разведачнай экспедыцыі, слесарам-мантажнікам у арганізацыі "Спецэлеватармельбуд". Вучыўся на хімічным факультэце Беларускага політэхнічнага інстытута (1960-1965). Па заканчэнні інстытута працаваў майстрам шклоапрэння на шклозаводзе "Нёман", тэхнолагам на віцебскім заводзе "Маналіт". Быў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве "Вышэйшая школа" (1967-1975), журналістам па дагаворы і загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі газеты "Знамя юности" (1975-1977), рэдактарам аддзела мастацтва і крытыкі часопіса "Нёман" (1977-1983), спецыяльным карэспандэнтам газеты "Літаратура і мастацтва" (1986-1988). З 1990 года быў адказным сакратаром часопіса "Спадчына". У 1995 годзе адкрыў уласнае выдавецтва "Лекцыя". У друку з мастацкім творам выступіў упершыню ў 1976 годзе (аповесць "Следчы эксперымент", часопіс "Нёман"). Пісаў на рускай і беларускай мовах, у гістарычным і прыгодніцкім жанрах. Многія яго творы звязаны з мінулым Беларусі. З найбольш вядомых кніг – раманы "Пагоня на Грунвальд", "Тры жыцці княгіні Рагнеды", зборнік гісторыка-літаратурных эсэ "Памяць пра легенды". Па матывах аповесці "Чарада варон над гасцінцам" драматург Аляксей Дудараў напісаў п'есу "Ядвіга". З пачатку 1990-х пісаў пераважна на беларускай мове.

11 КАСТРЫЧНІКА

**1760 год.** У Слоніме памёр Міхал Антоні Сапега, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, перакладчык, літаратар.

12 КАСТРЫЧНІКА

**1925 год.** У Берліне пачалася Другая ўсебеларуская канферэнцыя (доўжылася да 16 кастрычніка), на якой была прынятая заява аб роспуску Рады і ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі.

15 КАСТРЫЧНІКА

**1817 год.** У Салюры, Швейцарыя, памёр Тадэвуш Касцюшка, дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстання 1794 г. **1833 год.** У Фларэнцыі (Італія) памёр Міхал Клеафас Агінскі, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстання 1794 года.

Падрыхтавала **Марыя БЕРАСНЕВА.**



# Будуем мару: робім рамонт у санвузле і нацягваем столь

Фота iris.edilportale.com

**Рамонт – гэта заўсёды прыемныя клопаты: як зрабіць жыллё больш утульным, якія матэрыялы выбраць. Аднак гэта не толькі клопатна, але і пазнавальна. Аказваецца, што за час, пакуль вы жылі без рамонту, з'явіліся новыя матэрыялы, шпалеры, памяняліся нават унітазы і цвікі сталі іншымі.**

Працягваем расказваць пра навінкі ў сферы рамонту, а таксама, як яго зрабіць правільна.

## Рамонту ў санвузле не трэба баяцца

Пачынаеце рабіць рамонт у санвузле, пачніце не з выбару пліткі, мэблі для пакоя, звярніцеся да спецыяліста. Ён падкажа, з чаго найлепш пачаць, дапаможа з выбарам матэрыялаў.

– Часта бывае, што людзі купілі мэблю для санвузла, падрыхтавалі матэрыялы, аднак пасля таго, як мяняецца сантэхніка, трубы, аказваецца, што не ўся мэбля змесціцца, – заўважае спецыяліст па сантэхніцы **Дзмітры Падгорны**. – Большасць людзей дамаўляецца з рознымі спецыялістамі пакласці плітку, замяніць трубы і іншае. Але замаўляць у розных спецыялістаў часам бывае нашмат даражэй, чым "рамонт пад ключ". Калі нешта будзе працаваць не так, то цяжка знайсці тых, хто займаўся рамонтам, тым больш цяжка прымусіць іх нешта перарабіць. Калі вы замаўляеце "рамонт пад ключ", выправіць недакладнасць прасцей.

## Доўга без вады не прыйдзецца сядзець

Як адзначае спецыяліст, многія вельмі баяцца рамонту ў санвузле і адцягваюць яго. У многіх ён асацыюецца з некамфортнасцю: ні ў прыбіральню схадзіць, ні есці прыгатаваць, ні памыцца.

– На самой справе гэта не так і доўга, калі вы замаўляеце "рамонт пад ключ", – адзначае Дзмітры Падгорны. – Да вас прыязджае не адзін спецыяліст, а некалькі, таму справа ідзе хутчэй.

Максімальны час, за які рамантуюць санвузел, – тры тыдні. Але часцей за ўсё справа ідзе хутчэй. І на працягу ўсяго рамонту не прыйдзецца сядзець без вады і прыбіральні, бо гэты час патрэбны для тынковачна-плітачных работ, каб была вытрымана тэхналогія. Астатняе ў ваннай робяць хутчэй.

Рамонт у санвузле праходзіць у некалькі этапаў:

1. Дэмантаж старой сантэхнікі (каля дня).
2. Замена каналізацыйных і водаправодных труб. Расцэнкі за гэта бяруцца па "кропках", напрыклад, зрабіць разводку пад сушылку для ручнікоў, унітаз, ракавіну, ванну. На гэта спатрэбіцца каля дня.
3. Выраўноўванне сцен і ўкладка пліткі (ад 6 да 14 дзён у залежнасці ад памеру санвузла і крывізны сцен).
4. Устаноўка сантэхнічных прыбораў (да двух дзён).

Замест пліткі ў санвузле можна скарыстаць дэкор-панэлі 3d. Яны могуць імітаваць керамічную плітку, мармур, дрэва. У кожным камплекце ёсць інструкцыя па мантажы, таму ўстанавіць іх можна самім. Яны мантуюцца да двух дзён

– Гэта дазволіць зэканоміць сямейны бюджэт, – адзначае дырэктар інтэрнэт-магазіна "Буддом" Ігар Ржачыцкі. – Пакласці квадратны метр пліткі ў сярэднім каштуе каля 179 тысяч рублёў. За сярэдні пакой у 20 квадратаў прыйдзецца аддаць больш за тры з паловай мільёны рублёў. Гэта без уліку выраўноўвання сцен, калі дадаць і яго, то атрымаецца каля 5 мільёнаў 400 тысяч рублёў.

Пасля ўстаноўкі панэляў не трэба рабіць генеральную ўборку. Гэта ідэальны варыянт для старых дамоў.

## Душавая кабіна альбо ванна

Вялікі плюс ванны ў тым, што гэта ўніверсальны і надзейны сантэхпрыбор. Яго можна выкарыстоўваць і як ванну, і як душ, калі падвесіць дождждык вышэй. Мінус – гэта вялікі памер ванны, мінімальны памер 1,5 метра.

**Душавая кабінка**. **Плюсы**

1. Кампактная. Гэта выдатнае рашэнне для маленькіх пакояў.
2. Стыльны дызайн.
3. Абсталяваная разнастайнай камплектацыяй (дожджыкі, масажоры, радыёпрыёмнік і многае іншае).
4. Меншы расход вады ў параўнанні з прыёмам ванны.
5. Герметычнасць (вада не трапляе на падлогу з-за створак, якія герметычна зачыняюцца.

**Мінусы**

1. Вышэйшы кошт у параўнанні з цаной бюджэтнай ванны.
2. У большасці кітайскіх вытворцаў ненадзейныя кабіны. Аднак і паміж двума кітайскімі вытворцамі ёсць розніца.

– Толькі спецыяліст можа разабрацца ў нюансах, напрыклад, выбіраць душавую кабінку з нізкім ці высокім паддонам, бо ведае, як размяшчаецца сантэхніка ў кватэры, – заўважае Дзмітры Падгорны.

Тым, хто самастойна шукае душавую кабінку, мужчына раіць звярнуць увагу на мадэлі, якія можна ўстанавіць без выкарыстання сіліконавага герметыку альбо з мінімальным яго выкарыстаннем.

З часам сілікон губляе свае ўласцівасці, можа пажаўцець, пачарнець, па сценах і па сантэхніцы пайсці грыбок. Калі выкарыстоўвайце яго, выбірайце толькі надзейнага вытворцы.

## Выбіраем унітаз

Цяпер не толькі багаты выбар ваннаў, душавых кабінак, але нават унітазы адрозніваюцца адзін ад аднаго.

– Усё больш папулярнымі становяцца сядзенні з плаўным апусканнем накрыўкі, так званыя сістэмы "soft close" альбо "micro lift", – адзначае Дзмітры Падгорны. – Раней унітазы былі з рычагамі для змывання вады, цяпер у большасці гэта кнопкі. Пры гэтым яны могуць быць адна-, двухрэжымнымі (вада ў бачку можа зліваццa не цалкам, а напалову), на некаторых кнопках можа быць "стоп-функцыя", націскаеш адзін раз – вада зліваецца, націскаеш яшчэ раз – зліў вады спыняецца. Функцыя зліўнога механізма служыць для эканоміі вады.

Спецыяліст раіць, каб у санвузле абавязкова была сістэма вентыляцыі.

## Шукаеце змяшальнікі, звярніце ўвагу на вытворцу

– Найперш звярніце ўвагу на нямецкія і іспанскія змяшальнікі. Яны надзейныя, даўгавечныя, – раіць прадавец гандлёвага дома "Бярозакераміка-Вілія" **Алена Шэпуціс**. – У змяшальнікаў кітайскай фірмы "FRAP" выдатна распрацаваныя розныя варыянты дызайну, пераключальнікі. Вытворчасць гэтай фірмы наладжаная па нямецкіх тэхналогіях. Гэтыя змяшальнікі заваявалі пакупнікоў надзейнасцю – іх не вяртаюць людзі, бракаванай прадукцыі амаль няма. Змяшальнікі літоўскай кампаніі "Рубінета" якасныя, аднак цана пужае. А вось беларускія бяруць неахвотна.

Адрозніваюцца яны і па матэрыялах: храміраваныя, з латуні, саціну, бронзы. Выбіраюць пераважна сацінавыя, альбо чорныя ці белыя ў крапінку.

– Раней змяшальнікі ішлі з ручкамі, якія трэба было круціць, – заўважае спецыяліст. – Цяпер іх замянілі пад'ёмныя картрыджы. Гэта зручна, яны больш даўгавечныя. У некаторых змяшальніках для кухні ёсць асобная функцыя пераключэння на фільтраваную ваду. Некаторыя з душам-лейкай для мыцця садавіны і гародніны.

## Душавыя стойкі і трапічны душ

Душавая стойка прызначаная для таго, каб утрымліваць лейку для вады, што больш зручна для мыцця. Вам не трэба будзе трымаць яе.

– Трапічны душ – гэта магчымасць пабыць у спа-салоне, не выходзячы з уласнай ванны, – расказвае Алена Шэпуціс. – Вада ў ім ідзе не бесперапынным патокам, а кропелькамі. Гэта своеасаблівы масаж для цела, адчуванне, што вы знаходзіцеся пад дажджом. Пры гэтым яго можна рэгуляваць – альбо лівень, альбо маленькі, грыбны.

**"Маладзечнагаз"** нагадвае, што ў ванных і сунвузлах нельга ўсталёўліваць газавае абсталяванне. У топачных памяшканнях забаронена ставіць унітазы, душавыя кабіны і іншае сантэхнічнае абсталяванне.

## Перш чым рабіць нацяжную столь, паглядзіце, як яна выглядае

– Часам сутыкаюся з тым, што людзі замаўляюць нацяжную столь, аднак не ведаюць, якая яна на самой справе, – гаворыць **Аляксей Малько**. – Таму варта альбо паглядзець работы спецыялістаў, альбо схадзіць да знаёмых, у якіх ёсць такая столь.

Спецыяліст заўважае, што столь можна нацягваць у любым пакоі, нават у неацепленым.

Найбольш папулярныя фактуры: матавая, сацінавая і глянцавая. Першая падыдзе для любога інтэр'еру і дакладна перадасць любы выбраны вамі колер.

Падобнымі з'яўляюцца і сацінавыя столі, аднак іх фактура дадае лёгкі водбліск свету. Першыя дзве фактуры лепш нацягваць у спальнях.

Глянцавая столь візуальна павялічвае памяшканне, дадае пакою люстраны адбітак. Таму з пункту гледжання дызайну яны будуць больш цікавымі. Гэта выдатны варыянт для залы, калідора, сунвузла.

**Калі ў санвузле глянцавая столь цёмнага колеру, то на ёй будуць бачныя кропелькі высахлай вады. Мыць яе прыйдзецца часцей. На светлай столі кропелькі будуць нябачнымі.**

## Узроўневыя столі модныя, але не кожнаму па кашальку

Сярэдняя цана нацяжной столі за квадратны метр – 178 тысяч рублёў (10 долараў).

– Навінкі каштуюць значна даражэй, пачынаючы ад 356 тысяч рублёў за квадратны метр (30 долараў), – адзначае спецыяліст. – Моднымі з'яўляюцца столі двухузроўневыя, з фотадрукам, 3Д, аднак не кожнаму яны па кашальку.

Асноўныя вытворцы – Кітай, Германія, Францыя і Расія.

– Нягледзячы на разнастайнасць краін-вытворцаў, большасць нацяжных столяў кітайскія. Аднак баяцца гэтага не трэба, цана столяў кітайскай вытворчасці даступная, а якасць прыстойная, – адзначае Аляксей Малько.

Спецыяліст раіць не выкарыстоўваць столі насычаных колераў, напрыклад, цёмна-чырвонага, – спачатку яны падабаюцца, аднак з часам надакучваюць, "прыціскаюць" чалавека. На столі цёмнага колеру пыл больш бачны.

– Пасля таго, як вам нацягнулі столь, некаторы час у пакоі будзе трымацца пах, – адзначае спецыяліст, які нацягвае столі. – Гэта звязана з тым, што падчас устаноўкі выкарыстоўваецца газавая пушка, таму ў паветры застаюцца прадукты гарэння. Раней пах трымаўся ледзьве не тыдзень, цяпер матэрыялы больш сучасныя, таму выветрываецца за дзень.

Мінусам нацяжных столяў з'яўляецца тое, што вострым прадметам іх можна праткнуць. Трэба быць асцярожнымі і калі клеіце шпалеры.

Калі парэз ад сцяны не больш за 30 сантыметраў, то столь можна адрамантаваць. Калі ў цэнтры, то будзе цяжэй. Аднак выйсце ёсць, кажа спецыяліст. Можна, напрыклад, на месца парэзу пакласці латку альбо павесіць свяцільню.

Мыць нацяжную столь лепш спіртазмяшчальнымі сродкамі, напрыклад, для мыцця вокнаў, тканіну вазьміце мяккую, каб не падрапаць.

**Наколькі даўгавечнай з'яўляецца нацяжная столь?**

– Вытворца дае гарантыю ад 10 да 25 гадоў на тое, што столь не зменіць колер. Аднак дакладна сказаць пра даўгавечнасць нельга, бо такія столі адносна нядаўна з'явіліся на рынку, каля дзесяці гадоў, – заўважае Аляксей Малько.



Галіна СІНІЦА
8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

НАВІНЫ

### У апошні дзень кастрычніка ў Маладзечне пройдуць спаборніцтвы па гадзінным бегу, прымаюць заяўкі на ўдзел

МАЛАДЗЕЧНА

31 кастрычніка на гарадскім стадыёне пройдзе адкрытае першынство Маладзечанскага раёна па гадзінным бегу.

Рэгістрацыя ўдзельнікаў будзе ў дзень старту ад восьмай да дзясятай гадзіны раніцы. Адразу пасля рэгістрацыі пачнуцца спаборніцтвы.

Першымі стартуюць дзяўчаты да 18 гадоў і старэйшыя, а таксама мужчыны 60-ці гадоў і старэйшыя. У 11:10 на старт выйдуць хлопцы да 18 гадоў, хлопцы і мужчыны ад 18 да 59 гадоў уключна.

Усіх удзельнікаў, якія скончаць дыстанцыю, узнагародзяць медалямі аддзела адукацыі, спорту і турызму. Каманды, якія занялі прызавыя месцы, атрымаюць кубкі і граматы. Пераможцы і прызёры атрымаюць грашовыя прызы аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама альбо спонсараў. Прызёры атрымаюць граматы.

Заяўкі на ўдзел можна падаваць да 28 кастрычніка на электронны адрас **ufksitmolodechno@tut.by**.

Тэлефоны для давядак: **(80176) 746149, 747800, (8029) 1631869.**

**Паводле клуба аматараў бегу "Вікторыя".**

### "Смаргонь" прайграла "Смалявічам СТІ"

СМАРГОНЬ

У чэмпіянаце першай лігі Беларусі па футболе "Смаргонь" 4 кастрычніка прайграла ў гасцях "Смалявічам СТІ" 2:4.

Смаргонцы на 76-й хвіліне зрабілі лік 2:2. Неўзабаве маглі выйсці наперад.

– Калі б **Сяргей Бандарэнка** забіў з забойнай пазіцыі пры ліку 2:2, то, хутчэй за ўсё, мы б выйгралі гэтую гульню. Аднак Сяргей з пяці метраў б'е вышэй варот, – дзяліўся галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк**.

Гаспадары ж свой шанс не ўпусцілі, забілі трэці гол. А на 83-хвіліне "Смалявічы СТІ" паставілі кропку ў матчы.

### "ДЮСШ-4" з Маладзечна прайграе і адстае ад лідара

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Ва ўсіх трох матчах 22 тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманды з рэгіёна прайгралі. Усе гулялі ў гасцях.

"ДЮСШ-4" з Маладзечна 4 кастрычніка прайграла ФК "Фалько" з Дзяржынска 1:2.

Не дапамаглі маладзечанцам суседзі: яны не здолелі адабраць ачкі ў камандаў з лідзіруючай групы. "Забудова-Буд" прайграла ў Чэрвені лідару, "Коласу", 2:3. "Вілія" з Вілейкі з такім жа лікам саступіла "Старым Дарогам".

"ДЮСШ-4" займае другое месца і адстае ад "Коласа" на пяць ачкоў. "Вілія" ідзе сёмай, "Забудова-Буд" – восьмай.

### "Ашмяны" выйгралі ў "Клецка"

АШМЯНЫ

Пасля пройгрышу ў мінулым туры "Ашмяны" ў фінальнай частцы чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе выйгралі ў "Клецка" 3:1. Гулялі ў гасцях 3 кастрычніка. "Ашмяны" па-ранейшаму на 5-м месцы.

### Хто лідзіруе ў спартакіядзе

ВІЛЕЙКА

Пасля дзесяці відаў у кругладавой спартакіядзе працоўных калектываў Вілейскага раёна лідзіруюць прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму. У іх – 185 ачкоў, – расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда.**

За імі ў табліцы каманды Зеніт-БелОМА (179 ачкоў) і "Энергазбыт" (177).

### Валейбалісты з Мядзела зноў перамаглі

МЯДЗЕЛ

Каманда "Мядзел ФАЦ" атрымала другую запар перамогу ў чэмпіянаце адкрытай аматарскай валейбольнай лігі Мінска. Мядзельчане 4 кастрычніка абыгралі каманду 558 АРЗ з лікам 3:1. Каманда з Мядзела займае пятае месца ў другім дывізіёне.

### ХК "Дынама-Маладзечна" саступіў мінскаму "Юнацтву"

У першым фінальным матчы Кубка Салея маладзечанскі хакейны клуб саступіў мінскаму "Юнацтву" – 1:0.

Паядынак у адказ адбудзецца ў Маладзечне 20 кастрычніка. У выпадку роўнасці перамог уладальнік Кубка вызначыцца па розніцы забітых і прапушчаных шайбаў.

**Аддзел інфармацыі.**

АТЛЕТЫКА

# Паказаў Шварцэнегеру, як штурхаюць штангу беларусы

АШМЯНЫ

**Для 13-гадовага ашмянца Альберта Станкевіча вядомы культурыст, кінаакцёр і палітык Арнольд Шварцэнегер ужо даўно стаў прыкладам для пераймання. Падлетак марыў з ім сустрэцца – і мара яго споўнілася.**




Фота забяспечана Альбертам СТАНКЕВІЧАМ.

Альберт Станкевіч разам з Арнольдам Шварцэнегерам.

Адбылося гэта на спартыўным фестывалі "Арнольд Класік Еўропа 2015", які праходзіў 25-27 верасня ў Мадрыдзе. На фестывалі прадстаўленыя сілавыя віды спорту, а заснаваны ён Арнольдам Шварцэнегерам.

Падчас наведвання "жалезным Арні" спартсменаў хлопец паказаў, як штурхаюць штангу ашмянцы. За што ўдастоіўся пахвалы і поціску рукі ад Арнольда.

– Падчас паказальнага выступлення па цяжкай атлетыцы Арнольд Шварцэнегер звярнуў на мяне ўвагу і паклікаў да сябе. Пахваліў і паціснуў мне руку, – расказвае Альберт. – Я разгубіўся ад нечаканасці. Але, прыйшоўшы ў сябе, паспрабаваў моцна паціснуць Арнольду руку. Ён паглядзеў мне ў вочы і пажадаў у далейшым поспехаў у цяжкай атлетыцы і паўэрліфтынгу. Але фота атрымаліся не вельмі – усё гэта адбылося нечакана для нас.

**Даведка "РГ". Паўэрліфтынг**, або сілавое трохбор'е – сілавы від спорту, сутнасць якога заключаецца ў пераадоленні супраціву максімальна цяжкай для спартсмена вагі. У яго ўваходзяць тры практыкаванні: прысяданні са штангай на спіне, жым штангі лежачы на гарызантальнай лаве і цяга штангі.

### Падлетак марыць папоўніць медалямі "Залу славы" клуба "Аякс"

Калі месяц таму Альберт даведаўся, што паедзе ў Іспанію на фестываль, увесь час марыў аб сустрэчы з "жалезным Арні".

Першы раз пра Арнольда ён даведаўся гадоў у сем: прачытаў пра яго ў адным з часопісаў бацькі. Той убачыў цікавасць да персоны Шварцэнегера і пачаў паказваць фільмы з яго ўдзелам.

– Захапляюся тым, што ён з хворага і кволага хлопчыка ператварыўся ў вялізную "глыбу". Арнольд некалькі разоў перамагаў на прэстыжных чэмпіянатах "Містэр Алімпія", – кажа Альберт. – А я мару ў недалёкай будучыні стаць чэмпіёнам свету па паўэрліфтынгу сярод юнакоў і папоўніць "Залу славы" клуба "Аякс" медалямі сусветнага ўзроўню.

Альберт – выхаванец спартыўна-атлетычнага клуба "Аякс" з Ашмянаў. Займаецца з васьмі год паўэрліфтынгам, цяжкай атлетыкай – з 12 год. Але паўэрліфтынг падабаецца яму больш. Падлетак – пяціразовы чэмпіён Беларусі па паўэрліфтынгу сярод самых юных, бронзавы прызёр міжнародных спаборніцтваў у Вільні. Стanавіўся сярэбраным прызёрам першынства Гродзенскай вобласці па цяжкай атлетыцы.

### Фестываль для дужых

– На фестывалі "Арнольд Класік Еўропа 2015" усё было цікава: ад паказальных выступленняў да спаборніцтваў прафесійных культурыстаў, экскурсій па горадзе, фотасесій з вядомымі атлетамі. Пасябраваў у Мадрыдзе з **Кімберлі Уолфард** – №1 у жаночым паўэрліфтынгу. Яна папрасіла зняць на відэа яе выступленні, – прыгадвае Альберт. – У нашай камандзе выступала адна дзяўчынка з Мінска – **Саша Бурыкіна**. Яна заняла чацвертае месца і ўстанавіла два рэкорды Еўропы сярод дзяўчат да 18 год.

Удзельнічалі ў фестывалі яшчэ іншыя прадстаўнікі з Ашмянаў. Гэта бацька Альберта, старшы трэнер зборнай Беларусі па паўэрліфтынгу сярод юнакоў і юніёраў **Міхаіл Станкевіч** і трэнер спартыўна-атлетычнага клуба "Аякс" і цэнтра творчасці дзяцей і моладзі **Надзея Мікельсонс**.

Міхаіл Станкевіч сустракаўся з прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі паўэрліфтынгу (IPF) **Гастонам Паражэм**. Сярод іншага ішла размова аб магчымым правядзенні на Ашмяншчыне чэмпіянату Еўропы па паўэрліфтынгу сярод юнакоў і юніёраў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## ФК Узда – ФК Маладзечна: лік нічыйны

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 3 кастрычніка, ФК "Узда" прымаў у сябе ФК "Маладзечна ДЮСШ-4".**

Заўзятар Маладзечна **Дзмітры Рухлевіч** расказаў, што запомнілася хутчэй атмасфера гульні, чым сам матч: – Першы тайм быў падобны на выпрабаванне вынослівасці гульцоў. Гульня праходзіла толькі ў сярэдзіне поля.

Да перапынку маладзечанцы глядзеліся пераканаўча, што дарыла надзею на выбухны другі тайм. Пасля перапынку гульня пайшла, з'явіліся атакі.

– І маладзечанцы запхнулі мяч у вароты саперніка, інакш гэты гол не апісаць.

Прапусціўшы, у каманды з Узды адкрылася другое дыханне, і, як вынік, гаспадары параўноўваюць лік і да канца матча спрабуюць зарабіць тры ачкі.

Але фінальны лік матча так і застаўся 1:1. Шэраг гульцоў па розных прычынах не прыняў удзел у матчы.

– Па якой прычыне хуткасны **Павел Майсяёнак** застаўся ў запасе, застаецца загадкай, адказ на якую ведае толькі трэнер каманды.

Трэнер **Аляксандр Гармаза** адмовіўся каментаваць матч:

– Дастаткова таго, што мы згулялі 1:1, – адказаў ён "Рэгіянальнай газеце".

Становішча ФК "Маладзечна ДЮСШ-4" у прызавой тройцы пахіснулася.

Пасля нічыйнага матча з Уздой маладзечанцы апынуліся на другім радку турнірнай табліцы з 14 ачкамі. У патыліцу дыхаюць Мар'іна Горка (13 ачкоў) і "Тарпеда" Мінск (12 ачкоў).

Бліжэйшы матч супраць каманды "Прамень", ён адбудзецца на гарадскім стадыёне 10 кастрычніка.

**Наталля ТУР.**

АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙШЧЫНЫ



"РГ" трапіла на занятку навучэнцаў 301 групы Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа. Будучыя ветэрынары якраз у гэты час вывучалі, як трэба даглядаць і запрагаць коней. Практычныя заняткі па дысцыпліне "Жывёлагадоўля, зоагігіена і ветэрынарная санітарыя" адбываліся на вуліцы. Праводзіў іх выкладчык Мікалай Несцяровіч. Фота Настассі РОЎДЫ.

РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Кот у ботах**" (музычная казка), *Вольга Ліс*
13 кастрычніка – у 11:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Дзядзечкаў сон**" (камедыя мардасаўскіх нораваў), Фёдар Дастаеўскі
13 кастрычніка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
14 кастрычніка – у 19:00

**СПЕКТАКЛЬ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ДНЮ МАЦІ**

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
15 кастрычніка – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**

*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32**, **75-29-16**.
E-mail: modt@tyt.by
http://theatre-modt.by
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Прывітанне для мартышкі"** (камедыя ў 2-х дзеях, бел.), *Р.Осцер*
18 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**
МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | 9 | 2 | 6 | | 8 | 3 |
| | | | | 8 | | | | 6 |
| | | | | | | 1 | | |
| 8 | | | | 7 | | 9 | 3 | |
| 3 | | 5 | | | | 8 | | 7 |
| | 7 | 4 | | 3 | | | | 1 |
| | | 8 | | | | | | |
| 9 | | | | 6 | | | | |
| 5 | 3 | | 2 | 9 | 4 | | | 8 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Фэнтэзі, прыгоды, сямейны "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
9, 10 кастрычніка – у 19:30
10 кастрычніка – у 14:20
11, 14 кастрычніка – у 18:40
12 кастрычніка – у 18:30
13 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 30 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды, фантастыка "**Марсіянін**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
8 кастрычніка – у 19:20 і 22:10
9, 10, 15 кастрычніка – у 22:00
10 кастрычніка – у 16:40
11, 12, 14 кастрычніка – у 21:00
13 кастрычніка – у 18:10
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Камедыя "**Стажор**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
9 кастрычніка – у 17:20
11 кастрычніка – у 16:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Перапалох у джунглях**" (3D, Мексіка, Паўднёвая Карэя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
10 кастрычніка – у 12:30
11 кастрычніка – у 14:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Кунг-фу Трусік: Валадар агню**" (3D, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
11 кастрычніка – у 12:40
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, драма "**Радзіма**" (Расія, 2015, пасля 18 год)
15 кастрычніка – у 17:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, прыгоды, драма "**Прагулка**" (3D, ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
15 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Анімацыя, дзіцячы "**Прыгоды катабоя**" (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
9 кастрычніка – у 17:30
10, 11 кастрычніка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, сямейны "**Рыф**" (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
10, 11 кастрычніка – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя "**Каханне ад усіх хвароб**" (Францыя, 2014, пасля 16 год)
9, 10 кастрычніка – у 18:30
12, 14 кастрычніка – у 19:30
11, 13, 15 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама, драма "**Сірэна**" (ЗША, Францыя, Чэхія, 2014, пасля 16 год)
10 кастрычніка – у 21:00
11 кастрычніка – у 19:30
12, 14 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды, біяграфія, гісторыя "**Піраты Эгейскага мора**" (Расія, Грэцыя, 2012, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
9 кастрычніка – у 21:00
11 кастрычніка – у 17:30
13, 15 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Апошнія рыцары**" (Чэхія, пасля 16 год)
9 кастрычніка – у 17:50
10, 11 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Перавозчык 3**" (Францыя, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
9 кастрычніка – у 20:00
10, 11 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "Суперкаманда". (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
10, 11 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастыка, прыгоды "**Марсіянін**" (3D, ЗША, пасля 16 год)
9, 10 кастрычніка – у 18:00
10, 11 кастрычніка – у 21:00
11 кастрычніка – у 16:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Сямейны, фэнтэзі, прыгоды "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША)
9 кастрычніка – у 20:40
11 кастрычніка – у 18:50
Цана білета: 50 000 рублёў
10 кастрычніка – у 13:40
11 кастрычніка – у 13:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя "**Перапалох у джунглях**" (3D, Паўднёвая Карэя, Мексіка, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
10, 11 кастрычніка – у 12:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Кунг-фу Трусік: Валадар агню**" (3D, Кітай, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
10 кастрычніка – у 15:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
9-15 КАСТРЫЧНІКА

**Авен.** Вы – самадастатковы чалавек. Не звяртайце ўвагу на выпады некаторых нядобразычліўцаў, яны проста вам зайздросцяць.

**Цялец.** Вам будзе спадарожнічаць поспех. Адкрыюцца цудоўныя перспектывы. І няхай вас не хвалююць нейкія там непрыемнасці: хутка яны бясследна знікнуць.

**Блізняты.** Не будзьце такія запальчывыя, бо гэта не садзейнічае ўзаемаразуменню ні з кім. Добра яшчэ, што вас здаровы розум утрымлівае ад неабдуманых учынкаў.

**Рак.** Не забывайце пра сябе. Адчуйце любоў да сябе, займіцеся тым, што вам падабаецца, папесціце сябе прыемнымі ўражаннямі. Купіце сабе тое, што даўно збіраліся набыць.

**Леў.** Чаргуйце працу і адпачынак – так вы захаваеце бадзёрасць і добры настрой. Калі што і не паспяваеце, то не перажывайце – хутка вы атрымаеце дапамогу.

**Дзева.** Смела бярыцеся за новыя справы і не бойцеся, што ў вас нешта не атрымаецца. Галоўныя складнікі поспеху – гэта ваша моцнае жаданне нешта зрабіць, вера ў поспех і, вядома ж, праца.

**Шалі.** Не будзьце песімістамі, гэта ж пустая трата часу. Калі не ведаеце, чым заняцца, едзьце на прыроду, любуйцеся ёю, адчуйце адзінства з ёй. Менавіта ў такія хвіліны прыходзяць у галаву ідэі. Не адкідвайце іх. А дзейнічайце.

**Скарпіён.** Вы будзеце задаволеныя сабой, і менавіта спрыяльная рабочая абстаноўка створыць тыя ўмовы, якія ў далейшым прывядуць вас да ідэальнага душэўнага стану.

**Стралец.** Беражыце адносіны, якія даюць вам сілы, радасць, задавальненне.

**Казярог.** Работа, якую вы робіце няспешна, заўсёды адзначаная выдатнай якасцю. Выхадныя забяспечаць шмат уражанняў і навін. Вам будуць усюды рады.

**Вадалей.** Не звяртайце ўвагу на дробныя падкопы лёсу, праз колькі часу вы ўжо нават і не ўспомніце, што вас хвалявала цяпер. Наладзьце сустрэчу для абмежаванага кола людзей, размовы, якія ні да чаго не абавязваюць, дапамогуць узнавіць баланс у вашых бурных эмоцыях.

**Рыбы.** Задавальненне прыйдзе ў цішыні і спакоі, блізкасці да прыроды. Беражыце сілы, плывіце па цячэнні, не напружвайцеся.

Марыя УРБАНОВІЧ.

